5 траўня 1999 г. серада

# НАВІНЫ

№48 (579) кошт свабодны

## Палітэмігрант супраць палітвязня – II

стар.3





**Адбыўся другі тур радыё-дэбатаў паміж кандыдатам у прэзідэнты Зянонам Пазьняком і даверанымі асобамі Міхаіла Чыгіра, які зараз знаходзіцца за кратамі.**

**Зянон Пазьняк і Юлія Чыгір, а таксама намеснік старшыні Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» Аляксей Кароль адказвалі на пытанні беларусаў, зададзеныя па тэлефоне, факсе альбо поште. Размова прагучала ў эфіры беларускай службы радыё «Свабода».**

**Некаторыя адказы нам падаліся цікавымі, таму мы вырашылі прадаставіць вашай увазе фрагменты з перадвыбарчых дэбатаў.**

# Президентский рубикон

## Завтра начинается голосование по выборам президента Беларуси

**Виктория ТУРОВА**

**Политическая карта Беларуси все больше в последние дни напоминает зеленое сукно казино. Карты розданы. Ставки сделаны. Стороны считают взятки. Оппозиция готова пойти ва-банк.**

Теперь уже ясно, что выборы, объявленные Верховным Советом на 16 мая, все-таки состоятся. А голосование начнется даже раньше срока — 6 мая — и продлится в течение 10 суток. В минувшую пятницу Центризбирком под руководством Виктора Гончара принял решение, что граждане будут голосовать не на стационарных избирательных участках, поскольку государство отказалось предоставлять помещения и другие «излишества» в виде транспорта и прочих средств связи.

Предполагается, что уже в нынешний четверг 14 тысяч членов окружных избирательных комиссий пройдутся по адресам подписавшихся за выдвижение кандидатами в президенты эмигранта Пазьняка и заключенного под стражу сразу после регистрации Чигиря. Остальные желающие отдать голос за одного из двух должны будут поставить в известность о своей готовности территориальную избирательную комиссию. В какой форме, по словам В.Гончара, не важно. Это можно сделать письменно, отправив заказное письмо или написав в газету, как это сделал журналист Федута (к нему на квартиру глава ЦИК обещал прислать не менее 10 приглашений с уведомлением о месте расположения персональной урны). Если кто-то из граждан достаточно сознателен для выборов, но опасается перлюстрации, то он может изъявить свое желание устно по телефону или в приватной беседе с проживающим на соседней площадке оппозиционером. Тем, кто боится зловредных насекомых, обитающих в телефонах, или же просто не знаком с представителями оппозиции, остается ждать в своих квартирах того, кто придет забрать их голос. Игра пойдет вслепую, потому что даже номера телефонов территориальных комиссий оглашаться не будут. Чтобы не дразнить власть.

Играя в преферанс с режимом, оппозиция решила заказать «сталинград», где «взятки» обязательны. И, зная наши власти, аресты скорее всего будут. Как среди собирающих голоса, так и среди их отдающих. Даже если с урнами будут ходить по двое, и урноносцев будет не 7 тысяч, а на порядок меньше, все равно — если не в Минске, так в Могилеве кого-нибудь обязательно посадят. Просто по инерции, потому что хватали всю предвыборную кампанию. Поди потом доказывай, что ты не за революцию с булыжником в руках, а за смену власти конституционным путем — выборным, и вообще участвуешь в социологическом опросе о рейтинге лидеров оппозиции. Так что никто не гарантирует неприкосновенность. Своих формирований у оппозиции нет, а западные наблюдатели официально не приедут. Потому что власти эти выборы не признают. А неофициально, по партийной линии, 7 тысяч иностранцев, чтоб к каждой урне приставить оберегающего, тоже не получится — даже если и захотят, белорусские посольства и консульства за рубежом столько виз за раз в такие сжатые сроки не выдадут. К тому же 7 тысяч постояльцев в титенковских гостиницах — не столько оппозиции, сколько управделами подмога. Так что придется помогать себе самим, без заграницы.

Проведя 10 суток за интеллектуальным преферансом, оппозиция предложит властям элементарное «очко». 17 мая раскроются карты и подсчитаются очки. Чтобы выборы главы государства состоялись, необходимо набрать три с половиной миллиона бюллетеней. Чтобы победить на этих выборах, Чигирь или Пазьняк должны набрать 50 процентов плюс один голос от числа принявших участие в голосовании. В противном случае выборы будут признаны несостоявшимися. Тут бы режиму вздохнуть свободно, ан нет. В этом самом противном случае Центризбирком под управлением Гончара в течение трех месяцев назначает новые выборы. Надежда умирает последней...

Шансов сделать проект «Выбери себе президента» успешным у белорусов немного, как в пасьянсе «Могила Наполеона». Кто-то воскликнет — зачем же тогда вся эта затея!? Затем, что участие важнее выигрыша. Главное, что в Беларуси есть более 10 тысяч человек, которые не боятся выйти с урнами на улицы вопреки всем устрашающим прогнозам. Главное, что в Беларуси наверняка найдется множество не побоявшихся высказать свое мнение. Главное, что мнение граждан будет услышано и с ним придется считаться. Ведь рано или поздно у каждого Наполеона случается остров Святой Елены...

*Интервью с Виктором Гончаром читайте на стр.3*



Белорусам не привыкать пользоваться своим избирательным правом дома (фото из архива)

Фота IREX/ProMedia

### Гарачая лінія

## Прадпрымальнікі збіраюцца пасядзець

Паводле атрыманай намі інфармацыі, сёння ў 10 гадзінаў раніцы на стадыёне «Дынама» павінна распачацца сядзячая забастоўка прадпрымальнікаў, якія прыедуць з усіх найбуйнейшых рынкаў краіны. Пратэст будзе скіраваны супраць уседазволенасці кантралюючых органаў і прыцяснення прадпрымальнікаў як класа грамадства. Плануецца, што акцыя будзе працягвацца двое сутак, а ўдзел у ёй прымуць каля 10 тысяч чалавек.

***Аляксей ШЫДЛОЎСКІ***

## Спекхард цікавіцца выбарамі

Пытанне правядзення прэзідэнцкіх выбараў, прызначаных на 16 траўня, стане адной з галоўных тэмаў размовы пасла ЗША ў Беларусі Дэніэла Спекхарда са старшынёй ЦВК Віктарам Ганчаром. Сустрэча павінна была адбыцца ўчора ў другой палове дня. Пасля гэтага В. Ганчар збіраўся сустрэцца з кіраўніком групы АБСЕ Хансам-Георгам Вікам. Учора Спекхарда прыняў першы намеснік міністра замежных справаў Сяргей Мартынаў. Як нам паведамілі ў МЗС, гаворка ішла пра «актывізацыю двухбаковага супрацоўніцтва, а таксама пра шляхі наладжвання грамадскага дыялогу ў нашай краіне». Беларускі бок таксама выказаў пажаданне пра хутчэйшае вяртанне паслоў на месцы іх акрэдытацыі (адпаведна ў Мінску і Вашынгтоне). У бліжэйшыя дні ў амерыканскага пасла запланаваныя сустрэчы з прадстаўнікамі ўлады і апазіцыі.

***Алесь ДАШЧЫНСКІ***

### СКАНДАЛ

# «Кінутыя» і забытыя

## 700 дальнабойшчыкаў з Расіі трапілі «пад Лукашэнку»

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

**Учора Вярхоўны суд «штурмавалі» грамадзяне Расіі, якія ў свой час папалі пад дзеянне прэзідэнцкага дэкрэта ад 15 снежня 1998 года. Дайшоўшы да апошняй інстанцыі і да апошняй ступені адчаю ў надзеі знайсці справядлівасць, яны падалі чарговую скаргу на дзеянні беларускіх уладаў.**

Сутнасць справы ў тым, што ўсе гэтыя людзі з розных куткоў суседняй дзяржавы з'яўляюцца так званымі дальнабойшчыкамі, якія працавалі на расійскія арэндныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, займаліся бартэрам прадукцыі з Беларусі. Яны прывезлі з Расіі тавар, перадалі яго беларускім прадстаўнікам і ў сваю чаргу загрузілі сабе нашую прадукцыю. У гэты момант яны сталі паўнапраўнымі гаспадарамі беларускага тавару і намерваліся завезці яго на тэрыторыю сваёй дзяржавы.

Далей — зразумела. Ніводзін з дальнабойшчыкаў не пад'ехаў да мяжы бліжэй чым на 100 кіламетраў. Усіх спыніла беларуская міліцыя, а пасля, у адпаведнасці з дэкрэтам, раённыя суды аштрафавалі іх на вялікія сумы грошай. І прадукцыя, што вывозілася, і транспарт, на якім ажыццяўляліся перавозкі, былі канфіскаваныя і прададзеныя дзяржаваю па «бросавых» коштах. На ўсе спробы вярнуць маёмасць расійскія грамадзяне атрымоўвалі звычайныя адпіскі са спасылкай на ўсё той жа прэзідэнцкі дэкрэт. Многія з іх (а ўсяго такіх выпадкаў зарэгістравана на Беларусі больш за 700) нават пакінулі дома сем'і і прыехалі ў Беларусь з намерам дабіцца справядлівасці, чаго б гэта ні каштавала.

Што цікава, ім адмаўляюцца нечым дапамагчы нават у расійскім консульстве, маўляў, тут дзейнічаюць беларускія законы, і мы нічога не можам зрабіць.

Апынуўшыся ў становішчы, калі з аднаго боку іх атакуе Беларусь са сваімі «бандыцкімі», як сказаў жыхар Дагестана, законамі, а з другога — не жадае абараняць свая дзяржава, ахвяры дэкрэту заклікалі ўсіх пацярпелых сабрацца 11 траўня каля расійскага консульства і наладзіць там пікеты, каб на іх звярнулі хаця б нейкую ўвагу.

«Аб якім аб'яднанні дзвюх краінаў можа ісці размова, калі нас тут проста людзьмі не лічаць, мы тут ніхто, а кажуць — саюзная дзяржава! — гаворыць жыхар Стаўрапольскага краю. — Спачатку нас «кінула» вашая дзяржава, а пасля забылася свая...»

Вярхоўны суд — апошняя інстанцыя, куды маглі звярнуцца расіяне. Яны спадзяюцца на ўдалы зыход справы — больш ім не будзе куды скардзіцца. ■

### НАДВОР'Е




6 траўня па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, месцамі кароткачасовыя апады, вецер паўночна-заходні, 4–9 м/сек. Ноччу замаразкі да 0–5 градусаў марозу.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**430 000**

СЕРАДА



З АЛЯКСАНДРАМ ДУБРАВІНЫМ

## Логіка абсурду

Жывём мы ў поўным абсурдзе. Краіна незалежная, а залежыць ад усходняга суседа. Называецца Рэспублікай, а кіруе ёю адзін чалавек. Урадавыя газеты з маленькай літары пішуць слова «рэспубліка», затое з вялікай літары — «Прэзідэнт». Беларусы сваёй краінай ганарацца, а прэзідэнта саромеюцца. Бо куды ні прыедуць, там ім кажуць: «Ну і... у вас!»

Дзяржаўным сцягам у Беларусі лічыцца пярэсты чырвона-зялёны. А народ любіць афіцыйна забаронены бел-чырвона-белы і носіць яго на дэманстрацыях і пікетах. Народ у Беларусі, вядома, хоча добра жыць, але выбірае сабе начальнікаў, якія рабіць нічога не ўмеюць. Потым народ смуткуе і пытаецца: «А што ж рабіць?» Калі знаходзяцца разумныя людзі і падказваюць, народ іх не слухае. Затое калі выскачыць з канапель які-небудзь дурань і закрычыць: «Усе за мной!», за ім шмат хто пабяжыць.

Беларускі прэзідэнт — самы галоўны чыноўнік выканаўчай улады, але нічога не выконвае, затое сам для сябе піша законы, якія называе «дэкрэтамі». Над дэкрэтамі ўсе смяюцца, лічаць глупствам, але выконваюць. У час, свабодны ад напісання законаў, прэзідэнт гуляе ў футбол і хакей альбо выступае па тэлебачанні. Таму тэлебачання ў Беларусі ніхто не бачыць, бо з тэлевізара тырчыць адна прэзідэнцкая галава.

Прэзідэнт як галоўны гарант канстытуцыі адну канстытуцыю ўжо сплавіў, напісаў другую, для сябе. Зараз парушае і яе. У гэтым яму актыўна дапамагаюць іншыя гаранты законнасці. Напрыклад, Камітэт дзяржаўнай бяспекі. Яго хлопцы зараз актыўна змагаюцца з грамадзянамі Беларусі, якія не даюць прэзідэнту ліквідаваць дзяржаву. Дапамагаюць прэзідэнту і міліцыянты. Яны ўсяю чаргу арыштоўваюць дэманстрантаў, якія не даюць магчымасці ўладам пасылаць гэтых міліцыянтаў на вайну ў Чачню ды Таджыкістан.

Падтрымліваюць прэзідэнта пенсіянеры, якіх ён марыць голадам. Яны носяць ягоныя партрэты па вуліцах, выступаюць за аб'яднанне з Расіяй, каб потым іх унукі маглі замест Слоніма ці Слуцка цягнуць лямку ў расійскім войску, дзе-небудзь у Сібіры або на Сахаліне.

У сваім развіцці краіна імкнецца наперад — на Захад, дзе лепшая тэхналогія, машыны, грошы, але аднаўляе ўсё старое — наменклатуру, планаванне, размеркаванне – і сунецца на Усход.

Далей, чытач, працягвай думаць сам: логіка простая — будуюць адно, а будзе нешта супрацьлеглае. Цешыць, што абяцаюць нам новы славянскі саюз. Цешыць, што абяцаюць прэзідэнцтва Лукашэнкі яшчэ на дзесяць гадоў. Цешыць, што ўсё яшчэ толькі пачынаецца...

# Каб Беларусь не стала расійскай

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

10-12 траўня ў Гродне будуць знаходзіцца дэпутаты з Масквы і Мінска, якія праводзяць сесію парламенцкага сходу саюза Расіі і Беларусі. З гэтай нагоды кіраўнікі 32 палітычных арганізацыяў, аб'яднаных у каардынацыйным камітэце «Гродзенская ініцыятыва», прынялі зварот.

Звяртаючыся да суайчыннікаў, гродзенцы выказваюць непакой у сувязі з тым, што на сесіі ў Гродне могуць быць падпісаны дамоўленасці аб аб'яднанні дзвюх краінаў у адну дзяржаву. Абодва бакі імкнуцца выкарыстаць момант, калі ўвага міжнароднай грамадскасці звернутая да падзеяў у Югаславіі. Гэты акт супярэчыў бы карэнным інтарэсам беларускіх грамадзянаў, паколькі «немагчыма дасягнуць дабрабыту і спакою, калі наш агульны домператворыцца ў камуналку ці прахадны двор».

Гродзенскія палітыкі нагадваюць, што бараніць незалежнасць сваёй краіны — святы абавязак кожнага грамадзяніна. Яны заклікаюць выказаць пратэст супраць «злачыннага плана, які можа быць рэалізаваны ў Гродне». «Беларусь—наш Еўрапейскі дом, і мы яго гаспадары»,— заўляюць члены «Гродзенскай ініцыятывы». ■

# Дом Галіны Радзівонаўны – закрыты аб'ект...

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

У «прэзідэнцкім» Шклове былі затрыманыя і афіцыйна папярэджаныя польская праваабаронца Моніка Панфіль і яе магілёўскі калега Валадар Цурпанаў.

Яны знаходзіліся ў гэтым вядомым сёння райцэнтры для сустрэчы са шклоўскімі актывістамі праваабарончага руху. А потым вырашылі агледзець мясціны. Натуральна, што госці не маглі прамінуць увагай дом Галіны Радзівонаўны Лукашэнкі. Спадарыня Панфіль паспрабавала сфатаграфаваць яго. І тут высветлілася, што гэта аб'ект № 1 для мясцовай міліцыі. Літаральна праз некалькі хвілінаў госці райцэнтра былі затрыманыя, і іх даставілі ў РАУС.

Там начальнік раённай міліцыі маёр Волкаў паведаміў, што «фатаграфаваць дом прэзідэнцкай жонкі нельга, паколькі гэты аб'ект пад ахавай». А польскую праваабаронцу прымусілі засвяціць усю фотастужку. Мусіць таму, што на гэтай стужцы засведчана нейкая дзяржаўная таямніца пра дом першай лэдзі краіны. І папярэдзілі, каб на будучае такія рэчы рабіла толькі з спецыяльнага дазволу... ■

# Былы міністр сельскай гаспадаркі галадае

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

Былы міністр сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў трымае галадоўку. Паводле інфармацыі адваката Вольгі Зудавай, Лявонаў галадае з 25 красавіка. Ён патрабуе стацыянарнага лячэння ад хваробаў, якія абвастрыліся за час сядзення ў мінскім следчым ізалятары на вуліцы Валадарскага. У Лявонава лекары знайшлі цэлы «букет»: гіпертанію, хваробу сэрца, атэрасклероз, а зараз выявіліся і болі ў суставах. Пастаянна ён пакутуе і ад галаўнога болю. Васіль Лявонаў неаднаразова звяртаўся з просьбай аб лячэнні ва ўмовах стацыянара, але беспаспяхова. Месяц таму ён ужо трымаў галадоўку, якая доўжылася некалькі дзён, і зараз пачаў усё зноў.

Нагадаем, што былы міністр сельскай гаспадаркі быў арыштаваны ў лістападзе 1997 года прама ў службовым кабінеце. Яго абвінавацілі ў крадзяжы дзяржаўнай маёмасці і службовых злоўжываннях. Між тым, наколькі вядома, зараз у абвінаваўчым заключэнні фігуруе хабар, быццам бы атрыманы ад былога старшыні «Рассвета» Васіля Старавойтава.

Тыдзень таму справа Васіля Лявонава была перададзеная ў Вярхоўны суд. Прозвішча суддзі і дата працэсу над былым міністрам пакуль не абвешчаныя. ■

# Прэзідэнт інспектаваў «чарнобыльскі саркафаг»

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

Аляксандр Лукашэнка наведаў будаўнічую пляцоўку Палаца рэспублікі, які вось ужо 14 гадоў спрабуюць узвесці ў самым цэнтры Мінска. Аглядзеўшы ўжо пабудаваныя канферэнц-залы, холы і бары, прэзідэнт упэўнена заявіў, што з ліпеня 2000 года гэты «вельмі патрэбны для нашай краіны палац» будзе афіцыйна адкрыты. На думку Лукашэнкі, адміністрацыя палаца можа зарабляць на правядзенні розных сустрэчаў, канферэнцыяў немалыя грошы, якія прэзідэнт паабяцаў не забіраць у бюджэт. Разам з тым Лукашэнка адразу ж заявіў, што палац будзе знаходзіцца ў дзяржаўнай уласнасці. Прэзідэнт папярэдзіў міністра культуры Сасноўскага, каб у будучым палацы «і блізка не было ніякіх камерцыйных структураў». «Глядзі, адказваеш галавою»,— кінуў Лукашэнка ў бок перапалоханага міністра. На заканчэнне будаўніцтва гэтага «монстра-саркафага» прэзідэнт паабяцаў даць 800 мільярдаў рублёў і 2 мільёны долараў.

Падзяліўся галоўны беларускі гаспадарнік і сваімі планамі па пераўтварэнні праспекта Скарыны ў «супер-вуліцу». Лукашэнку не падабаецца назва праспекта Скарыны. Прэзідэнтскаму сэрцу было б мілей, каб праспект называўся Перамогі ці Незалежнасці. Для яго асноўная сталічная магістраль, названая імём першадрукара, такая ж крамола як Пагоня ці нацыянальны сцяг. Таму не варта здзіўляцца, што да якой-небудзь круглай даты на галоўнай мінскай вуліцэ зноў памяняюць шыльды. А пакуль па словах Лукашэнкі, да 1 верасня на праспекце будуць адкрытыя гандлёвыя кропкі, кавярні і крамы, каб людзі маглі туды прыходзіць раніцай, увечары і ўночы. Згодна з прэзідэнцкім праектам, жыхары першых паверхаў дамоў гэтай супер-вуліцы будуць адселеныя ў іншыя кватэры, а ў вызваленых памяшканнях размесцяцца крамы і рэстаранчыкі. Прычым адсяленне людзей аўтар беларускай мадэлі рынкавага сацыялізму збіраецца праводзіць за кошт бізнесменаў, якія пажадаюць купіць на праспекце гандлёвыя месцы. На думку Лукашэнкі, такія рэформы нададуць Мінску еўрапейскі выгляд.

На жаль, прэзідэнт не патлумачыў, які характар будзе мець гэтае адсяленне. Аднак, ведаючы выбуховы характар Лукашэнкі і імпэт, з якім ён бярэцца за справу, нельга выключаць і таго, што жыхарам першых паверхаў раёна, прызначанага стаць своеасаблівай «сталічнай вітрынай», проста загадаюць памяняць свае ўжо прыватызаваныя кватэры ў цэнтры на шэрыя кварталы ўскраін-новабудоўляў. ■

# Міхаіл Чыгір спадзяецца на «гарачую восень-99»

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

**Учора з былым прэм'ерам, а зараз кандыдатам у прэзідэнты Міхаілам Чыгіром сустрэлася ў турме ягоная жонка Юлія Чыгір. Сваімі ўражаннямі яна падзялілася з НАВІНАМІ.**

Нагадаем, Міхаіл Чыгір быў арыштаваны 30 сакавіка, у самым пачатку прэзідэнцкай перадвыбарчай кампаніі, арганізаванай апазіцыяй. Чыгір паведаміў учора сваёй жонцы, што следства фактычна не ідзе. З ім не праводзяцца допыты, яму не паказваюць ніякіх папераў, не задаюць пытанняў, не вядуць іншыя следчыя дзеянні. Толькі пасля арышту Міхаіл Чыгір бачыў кіраўніка следчай групы Лаўрэнюка, а за апошні месяц яны больш не сустракаліся. Карацей, у Міхаіла Чыгіра склалася трывалае ўражанне, што следства проста імітуе нейкую дзейнасць. «Адсюль ён робіць выснову, што яго адназначна арыштавалі, каб ізаляваць на час апазіцыйных прэзідэнцкіх выбараў», — паведамляе Юлія Чыгір. Паводле яе словаў, муж, аднак, не спадзяецца на хуткае вызваленне пасля 16 траўня, калі выбары ўжо пройдуць. Міхаіл Чыгір не выключае, што прыйдзецца сядзець куды даўжэй — нават да восені, калі, па ягоных прагнозах, эканоміка можа лопнуць. Былы прэм'ер чытае ў турме газеты, у тым ліку і апазіцыйныя, ды глядзіць тэлевізар. Усе чатыры сукамернікі Міхаіла Чыгіра так ці інакш звязаныя з эканомікай. Увогуле па назіраннях кандыдата ў прэзідэнты сённяшні кантынгент вязняў у следчых ізалятарах складаюць пераважна прадпрымальнікі, банкіры ды кіраўнікі розных, у тым ліку дзяржаўных прадпрыемстваў. Чыгір лічыць гэта вельмі дрэнным паказчыкам, які перш за ўсё сведчыць пра тое, што эканоміка загнаная ў тупік.

Юлія Чыгір перадае ад імя мужа прывітанні ўсім, хто яго падтрымлівае ў гэты цяжкі час, і асаблівыя віншаванні з прафесійнымі святамі — беларускім журналістам. ■

## ДЗВЕ ЦЫТАТЫ ДА ДНЯ ДРУКУ

Если военно-воздушные силы являются самым оперативным родом войск в высшем смысле этого слова, то то же самое, применительно к духовной сфере, можно сказать и о прессе. Иногда нам приходилось в течение трех дней менять позицию наших газет в освещении политических событий и поворачиваться на 180 градусов. Такое возможно лишь в том случае, если этот мощный инструмент целиком в твоих руках.

Проблемы, над которыми ломают головы выдающиеся представители народа и которые им еще не до конца ясны, не следует выносить на суд народа путем различного толкования их в прессе, напротив, пресса должна ждать до тех пор, пока не будет принято окончательное решение... Ведь народ хочет, чтобы им правили твердой рукой. И если вдруг народ почувствует, что руководство не знает, что ему делать, то он вообще не захочет никому подчиняться... Народ скорее простит руководству ошибку, которую он в большинстве случаев даже не заметит, чем хоть какую-то неуверенность в его рядах. Ибо если верхи вообще не могут принять решение, низы начинают волноваться. Следовательно, и речи быть не может о том, чтобы верховное руководство разрешило критику снизу предпринимаемых им шагов. И такого права требует не весь народ, а лишь отдельные его представители, склочники и критиканы по натуре.

*Из книги «Застольные разговоры **Гитлера** в ставке в 1941-1942 гг.»*

Поверьте, история Германии — это слепок истории в какой-то степени Беларуси на определенных этапах... Сегодня мы переживаем такой же период времени, когда нужна консолидация вокруг одного или группы людей, чтобы выжить, выстоять и подняться на ноги..У президента достаточно власти. Поэтому наш этап истории отличается от соответствующего этапа немецкой истории тем, что нам нет необходимости устанавливать абсолютную власть одного человека. Глава государства — президент — его авторитет на этом этапе выходит на первое место. Она должна быть неоспоримой. Этому учит нас немецкая история.

*Из интервью **А.Лукашенко** корреспонденту немецкой газеты «Хандельсблатт», прозвучавшее по Белорусскому государственному радио 24 ноября 1995 г.*

# Беларуская інтэграцыя ў расійскія СМІ

**БелаПАН**

У першыяню 29 красавіка ў эфіры Радыё Расіі прагучала новая сумесная беларуска-расійская праграма «Для Русі». Мяркуецца, што новая праграма цяпер стане выходзіць у эфір Радыё Расіі кожны чацвер; блок беларускай інфармацыі будуць рыхтаваць журналісты Белдзяржтэлерадыёкампаніі.

Нагадаем, што стварэнне сумесных тэле- і радыёпраграмаў прадугледжана пратаколам аб супрацоўніцтве, які быў падпісаны старшынямі тэлекампаніяў Рыгорам Кісялём і Міхаілам Швыдкім.

Паводле інфармацыі з кампетэнтных крыніцаў, завяршаецца падрыхтоўка і сумеснага тэлепраекта. Хутчэй за ўсё, ужо ў чэрвені ў ранішнім блоку канала РТР з'явіцца новая грамадска-палітычная праграма. Яе адметнай рысай стане тое, што асноўныя падзеі, што адбываюцца ў Беларусі і Расіі, будуць абмяркоўваць, у першую чаргу, радавыя грамадзяне. Як гэта робіцца на беларускім тэлебачанні, мы з вамі ведаем. ■

# Гродзенскіх «гвардзейцаў» адпусцілі

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Днямі былі адпушчаныя з-пад варты апошнія з затрыманых 25 красавіка ўдзельнікаў жалобнага «Чарнобыльскага шэсця» ў Гродне. Насуперак усім песімістычным прадказанням не была ўзбуджаная ніводная крымінальная справа. Суды абмежаваліся адміністратыўнымі арыштамі для 15 удзельнікаў і штрафам у 1 мільён для мінака, які выпадкова апынуўся побач з месцам падзеяў.

Уся гэтая гісторыя атрымала б выключна скандальную афарбоўку і хутка пачала б забывацца, калі б не адна акалічнасць. 10—11 траўня ў Гродне павінна адбыцца падпісанне дамовы аб утварэнні адзінай беларуска-расійскай дзяржавы. Апазіцыйныя партыі і рухі плануюць наладзіць у гэтыя дні буйныя масавыя акцыі, такія, каб утварыць сусветны рэзананс і паказаць, што засталіся яшчэ і ў Беларусі тыя, хто не жадае губляць незалежнасць сваёй краіны. У прыватнасці, ужо фарміруюцца спісы мінчанаў, якія паедуць у гэтыя дні падтрымаць гродзенскія акцыі. Цалкам не выключана, што і «гвардзейцы», якія ўжо паказалі сябе ў справе, не абміну́ць у гэтыя два дні абласны цэнтр на Нёмане. ■

# У Хартыі'97 — юбілей

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

На Web-сайце прэс-цэнтра Хартыі'97 (www.charter97.org) зафіксаваны 10-тысячны наведвальнік. Ім стаў студэнт аднаго з універсітэтаў у Венгрыі.

Па словах прэс-сакратара Хартыі'97 Алега Бябеніна, гэта грамадская ініцыятыва мае свой адрас у Інтэрнэце з 14 лютага бягучага года. Яго рэгулярна наведваюць 120—130 чалавек, што з'яўляецца для Беларусі рэкордам. На цяперашні час сайт займае 40—45-е месца ў рэйтынгу рускамоўных палітычных рэсурсаў. Пераважная частка наведвальнікаў — праваабаронцы, замежныя журналісты, якія займаюцца пошукам навінаў у Інтэрнэце, а таксама беларусы, якія пражываюць за мяжой.

Дзякуючы адрасу ў «сусветнай павуціне» хартысты займелі сувязь са сваімі прыхільнікамі ў Латвіі і Францыі, якія пасля наладзілі ў гэтых краінах пікеты ў абарону правоў чалавека ў Беларусі.

У бліжэйшых планах Хартыі'97 запуск у Інтэрнэце газеты НАВІНЫ. Спецыяльна для гэтага арандаваны сервер у ЗША, які забяспечыць добрую сувязь і бяспеку матэрыялаў. Першы выпуск НАВІНАЎ у Інтэрнэце можна будзе прачытаць 11 траўня на адрасе ў электроннай пошце www.svaboda.com. ■

# В.Гончар: «Выборы изменят ситуацию»

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

**Президентские выборы, еще не начавшись, уже успели стать главным политическим событием текущей весны и наиболее значимой за последнее время акцией оппозиции в Беларуси. Кроме того, нежелание Лукашенко, которого избирали только на 5 лет, идти на выборы в назначенный срок, как ни крути, является уязвимым местом режима. На вопросы НАВІНАЎ отвечает Председатель Центральной избирательной комиссии Виктор ГОНЧАР.**

**— Хватит ли сил участковых комиссий, чтобы осуществить процедуру голосования?**

— У нас есть порядка 14 тысяч членов участковых комиссий. Этого вполне достаточно, поскольку условная нагрузка, которая приходится на каждую пару, составляет где-то 1.000 избирателей. В течение 10 дней, даже в сельской местности, нет никаких проблем, чтобы осуществить голосование.

**— Будут ли наряду с хождением по квартирам открыты стационарные избирательные участки — например, на штаб-квартирах партий?**

— Наша задача состоит в проведении выборов, а не в провоцировании власти на силовые методы. Мы знаем лицо этой власти, она неумна, и я уверен, что в отношении членов участковых комиссий будут репрессии. А демонстративно оборудовать где-то участки равносильно тому, что с рогаткой бросаться на танк. Я прагматик, я считаю, что важно реально провести выборы, которые станут ярким свидетельством отторжения режима гражданами.

**— В случае массовых репрессий — есть ли какая-то возможность защитить людей, по отношению к которым эти репрессии будут применяться?**

— Защита этих людей прежде всего в массовом участии избирателей. Во-вторых, вменить что-либо членам комиссий невозможно даже с точки зрения придуманного режимом «законодательства». И, наконец, мы рассчитываем, что реализуются многие наши договоренности относительно участия наблюдателей, представляющих международные правозащитные организации, политические партии и парламенты других государств. Я уверен, что международные наблюдатели будут присутствовать в период проведения голосования — это тоже дополнительная гарантия для активистов. Если тем не менее репрессии будут, то всё, что от нас зависит в этой ситуации, мы сделаем для того, чтобы поддержать этих людей.

В той или иной форме репрессиям уже подверглись более 1.000 членов избирательных комиссий. По каждому случаю репрессий и применения мер воздействия на членов комиссий составляется официальный акт либо областной, либо Центральной комиссией. После окончания кампании мы систематизируем эти данные и сможем предоставить юридически безукоризненные доказательства нарушений законодательства со стороны властей.

**— Продолжается ли уголовное дело, заведенное лично против вас?**

— Да, причем ведутся активные процессуальные действия, в которых я, по принципиальным причинам, не участвую. Парадокс в том, что эти действия проводятся с другими членами территориальных комиссий, которых вызывают свидетелями по моему уголовному делу. Уже допрошено, опять же, более тысячи человек.

**— Один из кандидатов в президенты, Зенон Пазьняк, выступил резко против процедуры голосования, которая принята Центризбиркомом. Пазьняк считает, что даже в нынешних условиях каким-то образом должны быть оборудованы стационарные избирательные участки.**

— Предложение Пазьняка оторвано от политических реалий, и совершенно очевидно, что реализация этого предложения просто привела бы к срыву выборов.

**— В случае, если Пазьняк снимет свою кандидатуру, — выборы будут проводиться с одним кандидатом?**

— Вне всякого сомнения. Снятие Пазьняком своей кандидатуры никак не повлияет на проведение голосования. Закон предусматривает, что выборы не проводятся только в том случае, если снимают свои кандидатуры оба кандидата.

**— Насколько вы учитываете в своей работе внешнюю реакцию? Я имею в виду, что ни европейские государства, ни даже Соединенные Штаты однозначно не признали этих выборов. Т.е. они признали их как политическую акцию, но дали понять, что пока не готовы считать президентом Беларуси того, кто на этих выборах победит.**

— Я хотел бы расставить акценты в отношении достаточно массового заблуждения насчет позиции мирового сообщества. Ни у кого — ни у международных организаций, ни у цивилизованных государств — не вызывает сомнения законность этих выборов, поскольку выборы назначены легитимным органом власти (Верховным Советом), организуются и проводятся легитимной структурой, сформированной Верховным Советом (Центральной избирательной комиссией); наконец, ни у кого нет сомнений по поводу безупречности конституционной и правовой основы проведения этих выборов. Не случайно, что во многих документах (например, в заявлении Госдепартамента США, в последних резолюциях Европарламента) подчеркивается законность президентских выборов, проводимых в нашей стране. Другое дело, что победитель, если таковой будет (т.е. при условии, что выборы будут признаны состоявшимися) действительно, увы, вряд ли будет признан в качестве президента Республики Беларусь. Я могу заявить, что любой позитивный исход этой кампании (т.е. если выборы состоятся и будут признаны с формально юридической точки зрения) станет самым ярким свидетельством нелегитимности режима, и уж, во всяком случае, возникнет совершенно другая и политическая, и правовая, и — что самое главное — реальная ситуация. Создается реальная основа для проведения повторных выборов — уже при новой конституционной структуре власти, поскольку после 21 июля в Беларуси не будет легитимного президента. ■

# Палітэмігрант супраць палітвязня–II

**Адбыўся другі тур радыёдэбатаў паміж кандыдатам у прэзідэнты Зянонам Пазьняком і даверанымі асобамі Міхаіла Чыгіра, які зараз знаходзіцца за кратамі.**

**Зянон Пазьняк і Юлія Чыгір, а таксама намеснік старшыні Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» Аляксей Кароль адказвалі на пытанні беларусаў, зададзеныя па тэлефоне, факсе альбо пошце. Размова прагучала ў эфіры беларускай службы радыё «Свабода».**

**Некаторыя адказы нам падаліся цікавымі, таму мы вырашылі прадаставіць вашай увазе фрагменты з перадвыбарчых дэбатаў.**






_Пытанне абодвум кандыдатам:_ Ці рабілі Вы такія палітычныя крокі ў мінулым, аб якіх сёння шкадуеце?

**Юлія Чыгір:** Так, я ведаю два крокі, аб якіх мой муж заўсёды шкадаваў і неаднойчы пра гэта казаў. Адзін крок — тады, калі ён згадзіўся працаваць з Лукашэнкам як прэм'ер-міністр, а другі крок — калі ён пасля збіцця дэпутатаў і пасля рэферэндуму 1995 года не падаў у адстаўку. Гэта два крокі, аб якіх ён на сённяшні дзень шкадуе, пра іншыя я не ведаю.

**Пазьняк:** Яны былі, безумоўна. Можа, не такога кшталту, як у майго суперніка, але былі. Ну, напрыклад, падтрымка мною некаторых падзеяў у Расіі, на якія ўвогуле не трэба было рэагаваць ці зважаць. Я маю на ўвазе падзеі 1993 года — тагачасны канфлікт з Хасбулатавым і расстрэл парламента і г.д. Вось у гэтых момантах з сённяшняга досведу я б сябе паводзіў інакш.

_Пытанне абодвум:_ Якое месца ў Вашым урадзе зойме Ваш апанент? На якіх умовах Вы пагадзіліся б працаваць разам у адной камандзе, і ці гэта магчыма?

**Юлія Чыгір:** Ну, я ўжо казала, што на думку Міхаіла Мікалаевіча фармаваць каманду павінен парламент, абраны дэмакратычным шляхам. І я, я ведаю, ніколі не будзе супраць, калі парламент запрапануе Зянону Станіслававічу заняць месца, якое адпавядае ягоным заслугам перад беларускім народам і ягонай прафесіі.

**Пазьняк:** Я не бачу ніякага месца. А што датычыць умоваў, дык умовы такія: я — прэзідэнт, а спадар Чыгір прымае маю дзяржаўна-палітычную праграму.

_Пытанне абодвум кандыдатам:_ Скажыце, якой Вы бачыце будучыню нашай краіны? Якімі шляхамі яна будзе развівацца — будзе ў саюзе з Расіяй, ці будзе гэты саюз, ці далучыцца да яго Югаславія і іншыя краіны? І што можа стацца ў выніку далучэння Югаславіі да саюза Расіі і Беларусі?

**Аляксей Кароль:** Саюз Расіі з Беларуссю і Югаславіяй, што ўзнік апошнім часам, дае Лукашэнку яшчэ нейкі дадатковы рычаг уздзеяння на электарат, узбуджэння нейкай патрыятычнай істэрыі — не беларуска-патрыятычнай. Гэты саюз будучыні не мае, відавочна, нават пры рэжыме Лукашэнкі, і ён не будзе мець ніякай перспектывы, калі ў Беларусі ўсталюецца дэмакратычны лад, калі рэжым Лукашэнкі адыдзе ў мінулае. Знешнепалітычная пазіцыя будзе грунтавацца на развіцці Рэспублікай Беларусь сваіх дачыненняў з заходнееўрапейскімі дзяржавамі, на ўступленні ў Еўрасаюз.

Што да саюза Расіі і Беларусі, дык мэта яго з боку Лукашэнкі — пасада ў аб'яднанай дзяржаве, і пры рэжыме Лукашэнкі развіццё гэтага саюза можа мець сваім вынікам інкарпарацыю Беларусі ў склад Расіі. На жаль, і ў Расіі вялікадзяржаўная тэндэнцыя на канфлікце ў Косаве ўзмацнілася, і гэтая тэндэнцыя вельмі небяспечная для самой Расіі, не кажучы ўжо пра Беларусь.

Я мушу заўважыць, што антызаходняя істэрыя і настрої існуюць толькі ў афіцыйнай рыторыцы ўладаў і ў афіцыйных СМІ. На пабытавым узроўні ніякай антызаходняй істэрыі няма. Больш таго, празаходнія настроі, сімпатыі да заходніх краінаў не змяншыліся. Я б тут назваў два фактары, якія гэта абумоўліваюць. Па-першае, усё ж такі насельніцтва Беларусі нават на ўзроўні самых простых людзей так ці інакш ужо мае веды пра тое, як жывуць на Захадзе — і машыны ганялі туды, там і родзічы ўжо жывуць, маладыя, дзеці там пабывалі — і ўсё гэта ўплывае на настроі. На сутнасці, агульнае меркаванне на пабытавым узроўні — што нам не трэба ўлазіць ні ў якія канфлікты ў гарачых кропках і што менавіта расійская палітыка можа прывесці — калі Беларусь будзе інкарпараваная ў склад Расіі — да таго, што іх дзеці павінны будуць ехаць у гарачыя кропкі ваяваць. Такі вось антываенны настрой з гэтага пункту погляду, я б сказаў, пераважае ў беларускім грамадстве.

Сённяшнія беларуска-расійскія дамовы не працуюць. Яны будуць безумоўна перагледжаныя з пункту гледжання, што гэта будуць дачыненні двух незалежных дзяржаваў, і нацыянальныя інтарэсы Беларусі тут будуць зыходным пунктам пры правядзенні перамоваў з Расіяй. Аднак адмаўляцца ад сувязяў з Расіяй, на якую замкнутая пакуль што большая частка эканомікі, нявыгадна, і Чыгір у сваіх інтэрв'ю неаднаразова казаў, што будуць падтрымлівацца эканамічныя стасункі з Расіяй і разам з тым — стасункі з заходнімі краінамі.

**Пазьняк:** Гэтае пытанне для мяне амаль рытарычнае, таму што, будучы ў парламенце, я разам з фракцыяй змагаўся за выключэнне гарачых кропак — каб не пасылаць туды нашых хлопцаў, і мы перамаглі ў гэтым пытанні.

Што датычыць саюзаў, то такіх саюзаў увогуле не існуе. Гэта прапагандысцкія фантомы імперскай палітыкі. Таму пасля ліквідацыі дыктатуры будуць адмененыя ўсе валюнтарысцкія незаконныя міжнародныя опусы Лукашэнкі.

Пытанне аб істэрыі і аб NATO. Пытанне з істэрыяй вырашаецца вольным доступам насельніцтва да інфармацыі. Прапагандысцкая машына абалваньвання будзе ліквідаваная. А пакуль яна існуе — людзі не будуць арыентавацца ў падзеях у свеце, што яскрава відаць на прыкладзе балканскага канфлікту.

Што датычыць нашай канцэпцыі з NATO і Еўрапейскай уніяй. Мы будзем імкнуцца да супрацоўніцтва з NATO і старацца як найхутчэй стаць яго ўдзельнікам. Гэта для нас — лёсавызначальная задача, яшчэ больш важная, чым для Польшчы.

І магу яшчэ зрабіць заўвагу, якая тут гучала, адносна Еўрапейскай уніі. Вось у Еўрапейскую унію спяшацца якраз і не трэба. Трэба добра стаць на ўласныя ногі — і ў эканамічным, і ў дзяржаўным плане. Мне больш падабаецца пазіцыя Ісландыі, пазіцыя сСкандынаўскіх краінаў, якія не ўваходзяць у унію і добра жывуць. Таму што мы можам згубіць і сваю эканоміку, і сваю працоўную сілу, і ўвогуле быць залежнымі ад выканання нечых установак.

Вось такая мая пазіцыя. Лічу, што Беларусь усё ж такі павінна арыентавацца на Еўропу, на цывілізаваны свет, удзельнічаць у NATO, паколькі гэта гарантыя яе бяспекі, але быць вельмі асцярожнай з такімі структурамі, як Еўрапейская унія. Мы да гэтага яшчэ не падрыхтаваны. Трэба пэўны перыяд часу, дастаткова вялікі — можа, гадоў дзесяць, а то й болей...

_Пытанне да абодвух:_ Як вядома, асноўным электаратам цяперашняга прэзідэнта Лукашэнкі з'яўляюцца старыя людзі, пенсіянеры. Якія будуць Вашыя намаганні ў перацягванні да сябе гэтай групы электарата?

**А.Кароль:** Мы падчас збору подпісаў — пра гэта сведчаць і самі подпісы, і людзі, якія збіралі подпісы, — выявілі, што ёсць шмат людзей сталага ўзросту, пенсіянераў, ветэранаў, старых людзей, якія аддавалі свае подпісы і нават казалі: «Нам няма чаго губляць. А тут мы ўжо згубілі ўсё, што маглі, усё, што маглі, у нас адабралі». Такім чынам, ужо частка гэтага электарата на баку кандыдата ў прэзідэнты Чыгіра. Думаю, што жыццё настолькі цяпер цяжкае, што, на жаль, менавіта яно выконвае сваю ролю ў расчараванні пенсіянерскага электарата ў Лукашэнку. Ну і тлумачыць — галоўная наша задача — хто вінаваты ў тым, што яны знаходзяцца ў такім стане. А тыя, хто аддана верыць у Лукашэнку — відавочна, што пераконваць іх не трэба. Хай яны жывуць з гэтай верай.

**Пазьняк:** Што датычыць электарата, які аддany Лукашэнку, дык ён не такі малы. Гэта больш за 20%. Я не збіраюся яго перацягваць, бо ён не перацягваецца. Гэта абсалютна дакладна вядома. Што датычыць людзей старэйшага веку — у тым ліку і гэтых людзей, якія з'яўляюцца электаратам Лукашэнкі, — то гэта нашыя грамадзяне, і палітыку дзяржавы трэба тварыць такую, каб выходзіць з існавання гэтых грамадзянаў і з іхніх правоў.

_Пытанне абодвум:_ Колькі, на Ваш погляд, трэба часу, каб Беларусі прайсці шлях ад аўтарытарызму да сапраўднай дэмакратыі?

**А.Кароль:** Каб цалкам перайсці да дэмакратычнага ладу — патрабуецца значны час. Але тыя асновы, тыя першыя крокі, якія пазбавяць ад небяспекі адкату назад — я думаю, гэта паўтода-год. Асновы будуць закладзеныя, і вяртання назад будзе немагчымы. Я маю на ўвазе палітычныя пераўтварэнні. Прыярытэт палітыкі ў дадзеным выпадку. Эканамічныя пераўтварэнні зоймуць большы час — адчувальныя вынікі, калі людзі ўжо не будуць баяцца за сваю будучыню і будуць мець заробак, які дазваляе жыць больш-менш прыстойна — два-тры гады.

**Пазьняк:** Ну, калі мець на ўвазе сапраўдную дэмакратыю, як сказаў калега, што задаваў пытанне, — дык шмат спатрэбіцца часу. Шмат. Можа, нават цэлае пакаленне. А што датычыць тэрміну для стварэння дэмакратычнай улады і сістэмы дачыненняў — маецца на ўвазе эканамічных — дык год-два.

_Пытанне Пазьняку:_ Ці гатовы Зянон Станіслававіч спакойна ўспрыняць вынікі выбараў у тым выпадку, калі пераможцам усё ж такі будзе Чыгір?

**Пазьняк:** На гэтае пытаньне можна адказаць так: Бог даў мне здольнасць усё ў палітыцы ўспрымаць спакойна... і дзейнічаць нечакана.

_Пытанне Чыгіру:_ А калі пераможа Пазьняк, як гэта ўспрыме Міхаіл Чыгір?

**Ю.Чыгір:** Я паспрабую адказаць. Я думаю, што Міхаіл Мікалаевіч спакойна адрэагуе на такія вынікі. Я не думаю, што ён будзе ў апазіцыі. Калі Зянон Станіслававіч здзейсніць усё, што тут гаварыў, дык думаю, што не будзе. ■

**Падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

РЭПАРТАЖ У НУМАР

# НАТО – это не страшно

## К такому выводу пришел корреспондент НАВІНАЎ, проводя ежедневно по несколько часов в «логове потенциальных врагов»

**Александр СИЛИЧ, Хартия'97, Брюссель**

**Всю жизнь в мою голову, голову бывшего советского солдата, вбивался миф, что страшнее NATO «зверя» нет, что там сидят отчаянные головорезы, которые только тем и занимаются, что строят коварные планы и замышляют разные пакости против нас, советских граждан.**

Времена изменились, но пропагандистская машина в постсоветских странах по-прежнему олицетворяет Североатлантический альянс со всемирным злом. Редакция поручила мне выяснить, что из себя в действительности представляет штаб-квартира этой международной организации и, в частности, ее пресс-центр.

Находится штаб-квартира NATO на северо-восточной окраине Брюсселя, на бульваре Leopold III, в живописном местечке недалеко от городского аэропорта. Достаточно сесть на автобус № 65 или 21, и вы на месте. Штаб-квартира представляет собой многокорпусное здание, у входа в которое располагаются выстроенные в круг 19 флагов стран-членов NATO. А в центре этого круга – флаг самого NATO. Пресс-центр NATO занимает отдельное здание. Дорогу к нему угадать нетрудно – по тянущимся в его направлении потокам журналистов, отягощенных телекамерами, огромными микрофонами и прожекторами. Сейчас, в связи с боевыми действиями NATO в Югославии, пресс-конференции и брифинги проводятся каждый день.

Получить аккредитацию в пресс-центре NATO не просто, а... очень просто. Формально необходимо иметь письмо из газеты, которую представляешь, и журналистское удостоверение. Поскольку у меня не было ни того, ни другого (я работаю в брюссельском офисе Хартии'97), я предполагал, что возникнут значительные трудности. Придумав «легенду», позвонил натовскому чиновнику и стал объяснять: я, мол, белорусский журналист, хочу получить информацию из первых рук, приехал специально на пресс-конференцию, но письмо из газеты и журналистское удостоверение забыл дома. На другом конце провода послышался громкий смех, но затем последовал однозначный ответ: «Попросите ваших друзей в Минске прислать вам письмо по факсу. И приходите. Если возникнут трудности на входе, звоните. Я все улажу». Письмо из НАВІНАЎ я получил.

Вообще, заинтересованность NATO в том, чтобы привлечь как можно большее количество журналистов на свои брифинги и пресс-конференции, чувствуется сразу и ощущается впоследствии. «NATO открыто для всех. NATO нечего скрывать», – как бы негласный девиз этих встреч. Ведет брифинг обычно политический докладчик альянса Джеми Ши, кстати, очень образованный, начитанный и остроумный человек. Он рассказывает о политических результатах дня, а также о положении дел на «гуманитарном фронте», ведь NATO ежедневно осуществляет от 40 до 100 вылетов самолетов с гуманитарной помощью в Албанию и Македонию. Ситуацию же на фронте описывает военный докладчик NATO, как правило, генерал Джузеппе Марани или главнокомандующий Уэсли Кларк. Они рассказывают о том, сколько целей уничтожено за последние сутки, какие это цели, благополучно ли вернулись все Ф-16 на аэродромы. При этом демонстрируются видеоролики, слайды, карты, схемы. Примерно раз в неделю в брифингах участвует Хавьер Солана, недавно были Мадлен Олбрайт и Тони Блэр.

В зависимости от «звездности» брифинга на нем присутствуют от 100 до 300 журналистов. В основном, конечно, западноевропейские и американские. Но встречаются и из России, Украины, и даже из Югославии. Из Беларуси я пока в единственном экземпляре. Задать вопрос докладчикам пока не удалось, поскольку в первую очередь предоставляется это право журналистам, работающим на известные и влиятельные издания и компании, такие, как CNN, BBC, «Newsweek» и т.д. Но зато мне удалось пробраться в кабинет главы отдела работы с прессой NATO Харальда Бунгартена. «Не могли бы Вы ответить на несколько моих вопросов?» – спросила просунувшаяся в дверь кабинета моя голова. «Конечно, – радостно ответил Харальд. – Ведь это моя работа!»

Для журналистов созданы все условия: бесплатный доступ в Internet, бесплатная электронная почта, роскошная библиотека, возможность получить любые фото-, видео- и аудиоматериалы, и, что самое приятное – бесплатный телефон, с которого можно позвонить в любую точку света. Каюсь, но я все же разорил NATO на энную сумму денег, обзвонил оттуда всех своих друзей, родственников и знакомых в Минске.

Напряженная журналистская работа требует восполнения сил калориями, и поэтому к услугам работников и гостей NATO – просторный буфет, где за 30 франков (примерно 0.7$) можно выпить бокальчик отменного пива «Jupiler» и плотно пообедать. Ну, если вы, конечно, очень торопитесь, возле входа в зал для пресс-конференций есть специальный автомат для продажи напитков. Слева от автомата очень привлекательная женщина предложит вам разнообразные сувениры с символикой NATO: начиная от коврика для «мыши» и заканчивая огромным флагом Североатлантического альянса.

Что касается западных журналистов, то общаться с ними чрезвычайно интересно: они очень шустрые, веселые и все и обо всем знают. Обязательные атрибуты любого западного журналиста: портативный комп'ютер, сотовик и «фотогаубица» с полуметровым объективом. Можете себе представить, какое изумление в глазах западных репортеров я прочитал, когда зашел в пресс-зал с диктофоном в одной руке и «мыльницей» в другой. Это было все мое «обмундирование». Уже на следующий день я познакомился с американским историком Моррисом, хорошим другом Джеми Ши. Иногда Моррис мне приносит интересные статьи из его любимых «The Observer» и «International Herald Tribune». А еще Моррис любит похвастаться своим чудо-фотоаппаратом – старенькой немецкой «Лейкой», которую он почему-то называет «Лайкой». Я обучаю Морриса белорусскому языку, и уже как минимум 7-8 выражений он может произнести совершенно без акцента.

Удивила скорость работы западных журналистов. Представьте себе ситуацию: брифинг закончен, я складываю свои непритязательные фотоаппарат и диктофон в дипломат, встаю, дохожу до выхода, выхожу... А над выходом висит такой большо-о-о-й телевизор, по которому CNN в новостях уже крутит репортаж своего журналиста об этом самом брифинге в NATO. Вот это круто!

В общем, приезжайте в Брюссель, сходим в NATO – сами все увидите. И ничего, если вы забудете взять журналистское удостоверение или еще какую-нибудь бумажку. Нас все равно пропустят. Только проверят на входе, не несем ли с собой оружия. ■



Госсекретарь США **Мадлен Олбрайт** на трибуне пресс-центра NATO



Так выглядит пресс-центр NATO. На пресс-конференциях присутствует от 100 до 300 журналистов




Автор материала **Александр Силич** участвует в пикете перед зданием белорусского посольства в Брюсселе



Загінуў адзін зь лідэраў беларускага прадпрымальніцтва
**Арнольд ПЯЧЭРСКІ**

У гэтую вясну з жыцьця зь нейкай неспасьціжнай і страшнай пасьлядоўнасьцю сыходзяць моцныя й таленавітыя, яшчэ такія маладыя людзі. Для нескаторых маладафронтаўцаў Арнольд быў сябрам і паплечнікам у барацьбе. Для многіх – асабістым прыкладам сьціпласьці, духоўнае сталасьці і ўпэўненасьці ў сваіх сілах.

Малады Фронт моўчкі схіляе галаву. Нашыя шчырыя спачуваньні родным, сябрам і ўсім прадпрымальнікам «Дынама».

Мы будзем рабіць усё, каб незалежная, заможная й духоўная Беларусь, за якую змагаўся Арнольд Пячэрскі, стала рэальнасьцю.

Мы молімся за цябе, Арнольд.

**Управа Маладога Фронту**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 541 Нумар падпісаны ў друк 04/05/99 (15:00) Наклад – 17.120